№ 79 (3922)
10 кастрычніка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## АБЗАЦАМ

***

Кіраўнікі Беларусі і Туркменістана **Аляксандр Лукашэнка** і **Гурбангулы Бердымухамедаў** заклалі памятную капсулу нашчадкам у фундамент комплексу будынкаў Пасольства Туркменістана ў Мінску. Будаўніцтва распачалося непадалёк ад Палаца Незалежнасці.

***

Нацыянальная прэмія ў галіне сучаснага выяўленчага мастацтва з'явіцца ў Беларусі ў 2017 годзе. Аб гэтым паведаміла на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню работнікаў культуры, першы намеснік міністра культуры Беларусі **Ірына Дрыга.**

***

Кошты на паліва плануецца пераглядаць ў канцы кожнага квартала. Пра гэта карэспандэнту AUTO.TUT.BY распавялі адразу некалькі крыніц. Нагадаем, што месяц таму канцэрн "Белнафтахім" абвясціў аб прывязцы кошту бензіну да курса долара. Аднак да гэтага часу не быў ясны механізм карэкціроўкі, паколькі курс долара змяняецца амаль штодня.

***

Сёлета ў жыхароў Магілёўшчыны канфіскавалі ажно 88 самагонных апаратаў і 60 тысяч літраў самагоннай брагі. У міліцыі гавораць, што з пачатку года да адміністрацыйнай адказнасці за выраб самагонкі былі прыцягнуты 1213 грамадзян. Дарэчы, адказнасць за захоўванне больш як 30 літраў брагі складае ад 750 тысяч да 4,5 мільёна рублёў з канфіскацыяй спіртаўтрымальнай прадукцыі.

***

Французская кампанія PSA Peugeot Citroen пачне вытворчасць аўтамабіляў у Беларусі. Адпаведнае пагадненне было падпісана напярэдадні ў Парыжы. Зборка аўтамабіляў пачнецца ўжо ў лістападзе на плошчах завода "Юнісан", размешчанага ў вёсцы Абчак ў 10 км ад Мінска. На першым этапе плануецца стварэнне магутнасцяў для зборкі 2,5 тысячы аўтамабіляў у год для рэалізацыі на рынку Беларусі.

***

"Па просьбах грамадскасці" ў Беларусі можа з'явіцца Дзень бацькі. Пра гэта паведаміла намеснік начальніка аддзела Мінпрацы і сацыяльнай абароны **Марына Арцёменка.** "Маецца шэраг ініцыятыў, якія тычацца святкавання ў краіне Дня бацькі, якія зыходзяць ад грамадскіх аб'яднанняў. Перш за ўсё гэта аб'яднанні, на чале якіх знаходзяцца бацькі-адзіночкі ці бацькі з няпоўных сем'яў. Аднак для таго, каб адзначаць у краіне дадзенае свята, няма ніякай неабходнасці ўсталёўваць яго на дзяржаўным узроўні", — сказала прадстаўнік міністэрства.

***

Галоўнае следчае ўпраўленне МУС Украіны завяршыла першую частку расследавання масавых беспарадкаў, якія адбыліся 2 мая 2014 года ў Адэсе. Усяго па гэтай справе ў якасці падазроных праходзяць 34 чалавекі. Сярод іх — і грамадзянін Беларусі **Алег Шабалін,** які аб'яўлены ў вышук. Праўда, праваахоўныя органы Украіны добра ведаюць, дзе знаходзіцца Шабалін: яго затрымалі беларускія праваахоўнікі прама на мяжы, але зусім не па справе аб масавых беспарадках у Адэсе. Як аказалася, раней Шабалін быў неаднаразова судзімы за дробны крадзеж і парушыў правілы адбыцця прэвентыўнага нагляду. Украіна ўжо запатрабавала яго выдачы, але беларускі бок у гэтым адмовіў.

## ПАЛІТЫКА

# Аднагалосна

*Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў 9 кастрычніка аднагалосна ратыфікавалі дамову аб Еўразійскім эканамічным саюзе. Аднак у дакументы аб ратыфікацыі ўключана заява беларускага боку.*

Гэтую заяву агучыў старшыня міжнароднай камісіі Палаты прадстаўнікоў **Мікалай Самасейка:** *"Беларусь ратыфікуе дамову па ЕАЭС і бярэ на сябе абавязацельствы добрасумленна яе выконваць пры ўмове, што да гэтага моманту на трох- альбо двухбаковай аснове будуць дасягнуты канкрэтныя дамоўленасці пра зняцце бар'ераў, абмежаванняў і выняткаў у гандлі асобнымі відамі тавараў і аказанні асобных відаў паслуг".*

Член прэзідыума Савета міністраў **Сяргей Румас,** які прадстаўляў дэпутатам асноўныя палажэнні дамовы, прызнаў: *"Выняткі, абмежаванні і выключэнні ахопліваюць дзевяць таварных пазіцый, каля 30 працэнтаў усяго рынку. Такі рынак нельга назваць паўнавартасным".*




### КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА

Праект Еўразійскага эканамічнага саюза трымаецца на падабенстве палітычных рэжымаў у Расіі, Беларусі і Казахстане, таму любая палітычная трансфармацыя ў гэтых краінах можа знішчыць саюз, лічыць расійскі палітолаг, кіраўнік "Палітычнай экспертнай групы" **Канстанцін КАЛАЧОЎ.**

— Рэальная інтэграцыя магчыма тады, калі ў бакоў ёсць агульныя інтарэсы, калі кожны бок успрымае адзін аднаго як раўнапраўнага партнёра і калі гэтыя бакі сацыяльна блізкія, — заявіў Канстанцін Калачоў. — Пакуль гэты працэс толькі на самым пачатку, і казаць пра стварэнне нейкага падабенства Еўрасаюза досыць праблематычна. Я думаю, тут яшчэ трэба будзе ўбачыць, чым усё скончыцца з пункту гледжання менавіта раўнапраўнага партнёрства. Самае цікавае будзе адбывацца тады, калі будуць стварацца аналагі Еўракамісіі або Еўрапарламента. Пакуль, з майго пункту гледжання, гэта ў вялікай ступені піяр-праект, які, аднак, мае эканамічныя падставы.

Праблема ў тым, што многія ў Расіі лічаць, што гэтая інтэграцыя — аднаўленне СССР або нават Расійскай імперыі. Гэта тое, што і для Беларусі, і для Казахстана абсалютна недапушчальна. Я нават не кажу зараз пра настроі кіроўных эліт. Уладзімір Пуцін зрабіў сваім коньком інтэграцыю — гэта тэма, якая для значнай часткі насельніцтва, што настальгіруе па СССР, прывабная. Ці разумеюць яны, што рэальна адбываецца і што гаворка не ідзе пра СССР-2? Магчыма, і не разумеюць. Але ў дадзеным выпадку для значнай колькасці пуцінскай большасці важна, што іх настальгічныя пачуцці знаходзяць рэалізацыю ў палітыцы.

На думку палітолага, адна з галоўных пагроз Еўразійскага саюза — тое, што гэтае інтэграцыйнае ўтварэнне трымаецца на асабістых дамоўленасцях кіраўнікоў Расіі, Беларусі і Казахстана, а таксама на падабенстве палітычных рэжымаў.

## ВИЗИТ

# Путин прилетит в Минск

*10 октября президент Российской Федерации Владимир Путин в рамках рабочего визита в Беларусь примет участие в заседаниях Совета глав государств СНГ, Межгосударственного совета Евразийского экономического сообщества и Высшего Евразийского экономического совета, сообщает пресс-служба главы российского государства.*

Планируется, что на саммите СНГ будут обсуждаться вопросы развития многостороннего сотрудничества в экономической, гуманитарной и правоохранительной сферах. Готовится к подписанию ряд соответствующих соглашений и решений, а также Заявление об укреплении международной системы контроля над наркотиками и другие документы.

На заседании Межгоссовета Евразийского экономического сообщества президенты России, Беларуси, Казахстана, Киргизии и Таджикистана подведут итоги работы ЕврАзЭС и подпишут Договор о прекращении его деятельности (с 1 января 2015 г.).

К визиту Путина белорусская сторона готовит "подарок" — ратификацию Договора о Евразийском экономическом союзе. Упирались недолго...

## ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

# Визит Петра Порошенко в Минск под большим вопросом

На момент сдачи этого номера в печать президент Украины **Петр Порошенко** еще не подтвердил намерения участвовать в заседании Совета глав государств СНГ, которое состоится 10 октября в Минске. Лидеры всех остальных стран подтвердили свое намерение приехать на встречу.

## МОНИТОРИНГ

# «Голуби» и «ястребы»

Угроза сепаратизма в Беларуси не является актуальной. За все годы независимости единственным намеком даже не на сепаратизм, а на протоавтономизм было движение "Полісьсе", которое быстро сошло на нет при резко негативном отношении всей тогдашней белорусской политической элиты. К тому же можно добавить, что этнически Беларусь — достаточно однородная страна, в ней не существует регионов со сколь-нибудь высокой долей представителей нетитульного этноса.

Однако неожиданностям свойственно случаться. Многовековой опыт совместного проживания в одном государстве англичан и шотландцев раньше к референдуму не приводил, а сейчас привел. Да и отличия жителей Донбасса от жителей остальной Украины до последнего времени не казались столь уж значительными. Именно поэтому социологи решили проверить на сепаратизм и белорусов.

Опрос проводился в сентябре Независимым институтом социально-политических и экономических исследований, зарегистрированным в Вильнюсе.

**"Если бы в каком-либо регионе Беларуси среди его жителей возникла инициатива об отделении этого региона от Беларуси, как следовало бы действовать белорусской власти?"**

| Вариант ответа | % |
| --- | --- |
| Провести в этом регионе референдум об отделении | 10,0 |
| Вступить в переговоры с желающими отделения | 36,3 |
| Провести общенациональный референдум об отделении этого региона | 18,4 |
| Арестовать зачинщиков этой инициативы | 16,9 |
| Подавить эту инициативу любыми средствами | 14,0 |
| Затруднились ответить/не ответили | 4,4 |

Таким образом, мнения о желательных действиях в ответ на сепаратизм разделились примерно пополам. 46,3% в той или иной форме готовы признать легитимность такой инициативы, хотя отпустить в независимое плавание соотечественников, основываясь только на их воле (условно говоря — шотландский вариант), готовы только 10%. Переговоры — несколько более жесткая реакция, она предусматривает признание легитимности сепаратистских требований, но не предусматривает, что центральное правительство обязательно согласится на любую форму "развода", желаемую сепаратистами. И что вообще согласится на нее.

Однако относительное большинство (49,3%) настроено сказать гипотетической сепаратистской инициативе "нет". 18,4% говорят его с долей лукавства. Они как бы в принципе признают легитимность соответствующего требования, но итог референдума по всей Беларуси об отделении от нее некоего региона можно предугадать даже и без главы ЦИК Лидии Ермошиной.

Ну а мнение 30,9% лишено всякого лукавства — они полагают, что на подобные "поползновения" должен быть дан силовой ответ. Для 14% из них приемлемы любые методы, в том числе, как можно предположить, и АТО по-белорусски, отмечают социологи.

## ФОТОФАКТ



# Белорусский посол открыл в Париже выставку «Забор»

Посол Беларуси во Франции **Павел Латушко** совместно с мэрией 16-го округа Парижа открыл в Париже выставку белорусских современных художников "Забор". Среди художников, чьи работы увидят парижане, — Руслан Вашкевич, Виктор Альшевский, Владислав Стальмахов, Сергей Коваль и Сергей Гриневич.

## КАШАЛЁК

# Калі ўжо ім хопіць?

Да 2016 года беларускія спажыўцы пачнуць у поўным аб'ёме аплачваць некаторыя жыллёва-камунальныя паслугі.

Віцэ-прэм'ер **Анатоль Калінін** заявіў, што перш за ўсё гэта тычыцца аплаты электразабеспячэння, газазабеспячэння, вывазу смецця, карыстання ліфтамі. Ва ўрадзе запэўніваюць, што цяпер жыхары не аплачваюць і трэці рэальнага кошту паслуг ЖКГ.

## УПЕРШЫНЮ

# «Гэта ўжо ўнёсак у энергетычную бяспеку краіны...»

*У верасні ўпершыню ў гісторыі нафтавай прамысловасці Беларусі на Рэчыцкім радовішчы пачалася прамысловая здабыча нафты са сланцавых парод.*

Да апошняга часу залежы нетрадыцыйнай нафты былі недасягальныя для беларускіх нафтавікоў. Цяпер праз новую свідравіну здабываюць 20 тон нафты ў суткі.

Паводле афіцыйнага паведамлення на сайце "Беларусьнафты", запасы нафты тут могуць скласці да 700 тысяч тон. Гэта адпавядае 3 працэнтам таго аб'ёму нафты, які Беларусь штогод імпартуе з Расіі.

*"Гэта даволі значная падзея для краіны і яшчэ раз паказвае, што з геалагічнага пункту гледжання наша тэрыторыя не вельмі добра абследавана,* — кажа геолаг **Канстанцін ЛУКАШОЎ**. — *Ці дорага абыходзіцца такая здабыча? Тут трэба глядзець на ўзровень нашых тэхналогій. ЗША, напрыклад, са сваім тэхналагічным абсталяваннем выйшлі ўжо на першае месца ў свеце па здабычы сланцавай нафты. Але трэба быць рэалістам і разумець, што Беларусь — не Саудаўская Аравія, і вялікіх радовішчаў мы не знойдзем. Але ж кожны здабыты мільён тон нафты — гэта ўжо ўнёсак у энергетычную бяспеку краіны".*

**Алесь СІВЫ.**

## ЕСТЬ ВОПРОС!

# Почему подорожало такси?

***Руководитель столичной службы такси "Алмаз 7788" Виктор Пузиков объяснил, что новые тарифы на проезд в такси были вызваны заботой о водителях: подорожание услуги позволило поднять уровень зарплаты его подчиненных до уровня годичной давности.***

*— Заработки таксистов — не большая тайна,* — рассказал на сайте onliner.by Виктор Пузиков. — *Я могу сказать, что в среднем год назад она составляла "чистыми" порядка 50 долларов в день, и, работая 25 дней в месяц, таксисты зарабатывали 1250 долларов. Правда, в эту сумму не входили затраты на ремонт, которые, как вы понимаете, могут быть значительными.*

*И вот стало заметно, что в последние полгода наши водители стали все реже обновлять автопарк. Подсчитав их средний заработок за смену, я пришел к выводу, что он составляет уже 40 долларов и соответственно — 1000 долларов в месяц без учета ремонта. Получилась ситуация, при которой у таксистов оставались средства только на то, чтобы прокормить семью, а откладывать на новое авто уже не получалось. Повысив тариф, мы, по сути, подняли уровень заработков наших водителей на 22%, выведя его на уровень, который был год назад.*

С 1 октября, как известно, стоимость проезда в минских такси увеличилась на тысячу рублей за километр. Раньше тариф составлял 4,4—4,9 тысячи рублей за километр, сейчас 5,5—5,9 тысячи. Также увеличилась и плата за заказ автомобиля. Теперь бронирование машины и проезд на ней первые три километра обходится клиенту в 35—40 тысяч рублей.

Однако столичные таксисты не скрывают иную правду, в приватных беседах они признаются, что по фиксированным ценам в Минске мало кто ездит — средний рыночный тариф в Минске и сегодня составляет около 6—7 тысяч за километр. И таксисты намерены бороться за еще более высокие тарифы, чтобы цена одного километра была равна стоимости литра топлива. Любопытно только, кому такие услуги будут по карману?

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## НАДВОР'Е

# Цуд, а не восень!

Умовы надвор'я на тэрыторыі Беларусі вызначае цёплая паветраная маса, якая паступае з Еўропы. Таму гэтыя восеньскія дні будуць вельмі камфортнымі.

10 кастрычніка чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ноччу месцамі па Віцебскай вобласці невялікія дажджы. Вецер паўднёвы ўмераны, днём па ўсходзе парывісты. Тэмпература паветра ўначы будзе ў межах +5...+10°C, па захадзе да +12°C; днём максімум тэмператур складзе +17....+22°C.

У выхадныя захаваецца цёплае надвор'е. У суботу чакаецца пераважна без ападкаў, толькі па поўначы краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах згусціцца туман. Тэмпература паветра ўначы +6...+13°C, днём +14...+20°C, па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да + 22°C.

У нядзелю 12 кастрычніка тэрыторыя Беларусі застанецца пад уплывам цёплых паветраных мас, якія паступаюць з поўдня Заходняй Еўропы. Месцамі, пераважна па паўночнай палове, пройдуць невялікія кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра ўначы +6...+13°C, днём максімум тэмператур апынецца ў межах +13...+19°C, па поўдні будзе крыху цяплей — да +22°C.

## УЧОРА

# Літаратурны Нобель-2014 прысуджаны Патрыку Мадыяно



Учора ў Стакгольме лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры быў абвешчаны французскі пісьменнік **Патрык Мадыяно.**

Паводле вердыкту шведскіх акадэмікаў, Мадыяно быў узнагароджаны за "мастацтва памяці, пры дапамозе якога ён ажывіў найбольш няўлоўныя чалавечыя лёсы і раскрыў жыццё ў свеце акупацыі".

Дарэчы, на беларускую мову перакладзены раман Патрыка Мадыяно "Віла Журба". Аўтар перакладу Ян Максімюк.

### Да ведама

Нобелеўскую прэмію па літаратуры ў мінулых гадах (1901—2013) атрымалі 110 пісьменнікаў (у тым ліку 13 жанчын). Прэмія не прысуджалася сем разоў (1914, 1918, 1935, 1940, 1941, 1942, 1943). Чатыры разы прэмія прысуджалася дзвюм асобам адначасова (1904, 1917, 1966, 1974).

